№ 120 (242)

Чацвер, 17 ліпеня 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

| Сонца | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.41 | 21.28 |
| Магілёў | 4.48 | 21.20 |
| Гомель | 4.53 | 21.10 |
| Мінск | 4.58 | 21.31 |
| Гродна | 5.15 | 21.45 |
| Брэст | 5.24 | 21.37 |

*Поўня 20 ліпеня.*



## Сямён Шарэцкі выказаў спачуванне брацкаму польскаму народу

Як стала вядома, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання ад імя ўсяго дэпутацкага корпусу накіраваў тэлеграму прэзідэнту Рэспублікі Польшча Аляксандру Квасьнеўскаму, старшыні Сейма Юзэфу Зыху і старшыні Сената Адаму Струзіку.

У ёй выказваецца глыбокае спачуванне брацкаму польскаму народу ў сувязі з пасцігшым краіну стыхійным бедствам, якое прынесла вялікія разбурэнні і чалавечыя ахвяры.

**(Ул.інф.)**

## В Польше наводнение. И траур

Как сообщила пресс-служба Посольства Республики Польша в Республике Беларусь, непрекращающиеся на протяжении нескольких дней проливные дожди вызвали подъем уровня воды в реках Одра и Висла. Реки вышли из берегов. Вода залила одну десятую часть территории страны. Под водой практически полностью оказались такие города, как Вроцлав, Ополе, Ратибуж. Согласно неофициальным данным, на 14 июля число погибших в результате наводнения составляет 35 человек, сотни людей пропали без вести. На дорогах парализовано движение, разрушены десятки сотен мостов и путепроводов, под водой — 240 тысяч гектаров земельных угодий.

Наводнение нанесло огромный ущерб хозяйству, размеры которого можно будет определить только после спада воды. В спасательных работах принимают участие армейские части, полиция, пожарные службы, общественные формирования, органы местного самоуправления, а также жители потерпевших регионов.

По всей стране объявлен сбор финансовых средств для пострадавших районов. Принимается помощь в виде продуктов питания, питьевой воды, лекарств, теплой одежды, одеял, инструментов. Польское правительство под руководством премьер-министра пана Цимошевича обратилось в Сейм о внесении дополнений в 25 законов Республики Польша, в том числе и закон о бюджете. А также постановило внести предложение о расширении возможностей получения кредитов, назначить уполномоченного по вопросам восстановительных работ, приостановить все инвестиции министерств, ввести налоговые льготы для оказывающих финансовую помощь потерпевшим, выплатить пособия всем, кто пострадал. Не исключают польские власти и обложение граждан специальным дополнительным налогом. Принято постановление оказать помощь пострадавшим в размере 200 миллионов долларов США, обсуждается также возможность введения национального займа.

18 июля будет объявлено днем национального траура.

**Марина КОКТЫШ.**

Я так мяркую...

## Не святкаваць, а памінаць трэба ў гэты дзень

Нядаўна рэспубліка адзначала Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Я не разумею, чаму адначасова святкаваўся і Дзень незалежнасці. Так вырашылася рэферэндумам, скажаце вы. Але мне ўсё роўна не зразумела. Давайце задумаемся. Мінск вызвалілі 3 ліпеня. Пасля вызвалення Беларусі з усіх яе вёсак і гарадоў падабралі, падчысцілі маладых хлапцоў 1926 і 1927 гадоў нараджэння і пагналі іх на Захад "дабіваць ворага". А ваяваць яны не ўмелі. І камандзірамі ў іх былі не заўжды тыя, хто даражыў жыццём чалавека. Пагэтаму ўрэшце вярнуліся дамоў, па словах пісьменніка В.Астаф'ева, толькі трое з сотні. Дык, можа быць, не радавацца ў гэты дзень, а спраўляць усенародныя памінкі па тых дзевяноста сямі з кожнай сотні адпраўленых на вялікую бойню юнцоў, што не вярнуліся дамоў, многія з якіх нават не зведалі, што такое першае каханне?

Ды трэба ўлічыць гібель і тых, каму было больш за 18 гадоў. Яны таксама паклалі свае галовы як на Вісле, так і на Одэры. А пра Берлін тут і казаць не прыходзіцца.

**Віль ІВАШКЕВІЧ,**
**пенсіянер, жыхар вёскі Вялікая Сліва Слуцкага раёна.**

Чулі?

## Сафія Ратару наведала Віцебск на ружовым аўтобусе з... уласным імем на "борце"

Аб удзеле Сафіі Ратару ў "Славянскім базары" нагадвалі не толькі афішы, але і ружовы аўтобус з яе імем на "борце". Як сказала спявачка карэспандэнтам БелТА, на фестываль яна прыехала з выдатным настроем і з намерам парадаваць гледачоў знаёмымі і зусім новымі песнямі.

Мяркуючы па тым, як прымала артыстку перапоўненая зала летняга амфітэатра, дзе яна выступіла з праграмай "25 гадоў на сцэне", настрой у яе не сапсаваўся, чаго не скажаш аб арганізатарах фестывалю. Нягледзячы на іх просьбы, Сафія Ратару не змагла своечасова развітацца з гледачамі: яны прасілі яе спяваць яшчэ і яшчэ. У выніку з вялікім спазненнем пачаўся канцэрт групы "Агата Крысці", якую чакалі ў прамым тэлеэфіры расійскай "Праграмы "А".

А ў Віцебску смуглянка-хутаранка трапіла з "вострава кахання" ў цэлы акіян кахання. І ў адказ прысвяціла прысутным у зале новыя песні Уладзіміра Мацецкага, якія ўвойдуць у яе чарговы альбом пад назвай "Кахай мяне".

Яшчэ больш падняць настрой непараўнальнай Сафіі павінна было ўзнагароджанне яе Ганаровым знакам Міжнароднай карпарацыі "Славянскі базар", уладальнікам якога яна стала ўслед за Аляксандрам Лукашэнкам, Арманда Марэна, Джорджэ Мар'янавічам, Людмілай Зыкінай і ў адзін год з Міхаілам Фінбергам. Такіх знакаў, якія з'яўляюцца унікальнымі ювелірнымі вырабамі з золата і фіянітаў, выраблена ўсяго дзесяць.

Будзе ў Ратару і яшчэ адна памяць аб Віцебску — тэлевізар "Віцязь" мясцовага тэлезавода. А да сотняў букетаў, падораных паклоннікамі яе таленту, дабавілася і кошык кветак ад міністра культуры Беларусі Аляксандра Сасноўскага.

Святкаванне творчага юбілею спявачкі праходзіла ў рамках Дня ўкраінскай культуры на "Славянскім базары". У праграме "Украіна музычная" прынялі ўдзел звыш трохсот выканаўцаў з гэтай багатай на таленты краіны.

**Віктар КУКЛОЎ,**
**Вольга СІДАРОВІЧ,**
**БелТА.**

*Віцебск.*

Погляд...

## Ваеннае вучылішча павінна насіць імя не гвалтаўніка Суворава, а лепшага сына беларускага народа Якуба Ясінскага

Нядаўна ў Мінску адбыўся ваенны парад. Па плошчы Незалежнасці прайшла калона выхаванцаў вучылішча, названага імем расійскага палкаводца Суворава, які ў 1795 годзе падавіў паўстанне нашых продкаў супраць расійскага засілля, загнаў іх у імперскае ярмо, у няволю, у залежнасць ад драпежнага суседа. За гэта яму было нададзена званне генералісімуса. У гэтай барацьбе нашых продкаў за свабоду і незалежнасць супраць расійскага засілля загінулі лепшыя сыны нашага народа (такія як, напрыклад, Якуб Ясінскі). Вось чыё імя павінна было насіць вучылішча, калі б наша Беларусь была сапраўды незалежнай дзяржавай!

Безумоўна, Сувораў для расіян — выдатная асоба, але назваць яго імем вучылішча на Беларусі — гэта значыць укараніць у свядомасці выхаванцаў дух залежнасці.

**Яўген ФІЛІПОВІЧ,**
**жыхар пас.Гарадзішча Мінскага раёна.**

Стоп-кадр

## "Мастеровой" с Могилевщины



*В будущем из этого мальчугана из деревни Дашковка Могилевского района, пожалуй, получится настоящий мастеровой. У многих мальчишек молоток и гвозди заменяют дорогие игрушки. Из таких мальчишек, как правило, вырастают мыслящие инженеры, конструкторы, исследователи.*

**Фото Николая ТИТОВА, БелТА.**

Трудный путь

## На переговорах спор идет за каждое слово

*Уже первый день второго раунда трехсторонних переговоров между представителями президента Беларуси, Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва и Евросоюза подтвердил общую мысль — диалог будет проходить необычайно трудно.*

Уже в 9 утра 15 июля участники трехсторонних консультаций начали собираться, как и месяц тому назад, в том же самом здании концертного зала "Минск". Правда, вместо 13 участников переговорного процесса поначалу за "круглым столом" уселось десять. Иван Пашкевич в это время был занят на каком-то важном совещании у президента, Юрий Малумов в составе делегации Национального собрания находился в Китае, а Петр Кравченко болел. Впрочем, на кворум это не повлияло, поскольку еще раньше было оговорено, что каждая сторона может использовать половину своего полного состава. Неожиданным было появление в переговорном зале обаятельной женщины в строгом костюме. Как выяснилось, это профессор права Варшавского университета Моника Платек. В переговорах она участвует в качестве эксперта ОБСЕ (Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе).

Заседание началось и все время проходит за закрытыми дверями. Ссылаясь на его конфиденциальность, его участники отказываются что-либо комментировать. Так, Василий Новиков, выйдя в перерыве в коридор, сказал журналистам лишь, что пока обсуждается процедурный вопрос. А Иван Антонович на все вопросы отвечал почему-то по-английски: "No comments, no comments". Хотя, кроме трех поляков, в числе журналистов были все местные люди. А когда кто-то из пишущей братии сообщил министру о новых назначениях Владимира Русакевича и Владимира Заметалина, то Иван Иванович и вовсе махнул рукой, сказав: "Зачем вам что-то рассказывать, если вы все раньше меня знаете".

Весь первый день переговорного процесса был посвящен вопросу, оставшемуся открытым еще с первого раунда. Тогда при обсуждении регламента стороны никак не пришли к мнению — какую Конституцию — подписанную Мечеславом Грибом или принятую с изменениями и дополнениями на ноябрьском 1996 года референдуме — необходимо усовершенствовать. И теперь каждая сторона, судя по всему, стоит на своем.

Не прошли и два компромиссных варианта. В первом предлагалось отказаться от слов "Конституция Республики Беларусь" и вместо них использовать слова "Основной Закон". Однако Евромиссия выступила против такого подхода, поскольку в английском языке для слова "Конституция" нет такого юридического эквивалента, как "Основной Закон". Тогда оппозиция предложила другой вариант — вместо слова "Конституция" писать слова "Конституционное законодательство". Однако и эта формула европейцами была отвергнута. Дело в том, что руководитель миссии Мэтью Рассел пояснил: у миссии есть мандат и полномочия обсуждать только Конституцию. А понятие "Конституционное законодательство" далеко выходит за рамки этого предмета.

Как видите, даже в регламенте очень трудно найти взаимопонимание. Что же говорить, когда процесс коснется фактических изменений Конституции?

**Владимир ГЛОД.**

Вена — Мінск

## "Дэмакратыя для жанчын – не дэмакратыя"

Гэтыя словы належаць першай ледзі Амерыкі Хілары Клінтан. Жонка амерыканскага прэзідэнта выказала сваю думку пра жанчын і дэмакратыю падчас гадзіннага выступлення на міжнароднай канферэнцыі "Жыццёва важныя галасы: жанчыны ў дэмакратыі", якая адбылася ў Вене. Сярод яе трохсот удзельніц былі і шэсць прадстаўніц Беларусі. Гэта дэпутаты Вярхоўнага Савета Вольга Абрамава і Людміла Гразнова, навуковец Алена Гапава, прафсаюзны дзеяч Валянціна Палевікова, журналісткі Ірына Сакалова і Вольга Тамашэўская.

15 ліпеня Людміла Гразнова і Алена Гапава правялі прэс-канферэнцыю, на якой расказалі пра тое, як праходзіў венскі форум. Яны падкрэслілі, што сямейны і прафесійны вопыт жанчын вельмі пасуе для пабудовы дэмакратычнага цывілізаванага дома, дзе правілы паводзін аднолькавыя для ўсіх, незалежна ад пола, нацыянальнасці, дабрабыту... На форуме ў сталіцы Аўстрыі не было жаночага ляманту і гвалту, наадварот, адбыўся шырокі абмен думкамі аб ролі жанчыны ў грамадскім жыцці.

Беларуская праблема разам з сітуацыяй у Босніі апынулася ў цэнтры ўвагі венскай канферэнцыі. Яе ўдзельніцы выказалі сваё абурэнне парушэннем у нас дэмакратычных норм жыцця, у тым ліку і ў адносінах да жанчын.

А ўвогуле высветлілася, што жанчына-палітык яшчэ даволі вялікая рэдкасць. І калі сярод парламентарыяў Чэхіі жанчыны складаюць 15%, Балгарыі і Польшчы — 13%, дык на Украіне ўсяго 3%, у Малдове — 4%, у Беларусі — 4,5%... Застаецца суцяшацца, мабыць, толькі тым, што на рынку, у тым ліку і палітычным, чым тавар сустракаецца радзей, тым ён больш цэніцца.

**Уладзімір ГЛОД.**

Эхо трехлетия царствования

## Ложка дегтя в бочке меда,

### или Тринадцатая перемена к праздничному столу, за которым власть пирует без устали вот уже две недели

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель "Народной воли"**

Июль 1997 года в Беларуси выдался сплошь радостным. Первый День республики 3-го числа, отмечавшийся по новому, ноябрьскому 1996 года, "летоисчислению", плавно перешел в торжества по случаю юбилея основания Минска. Еще не сняли с фасадов зданий столицы яркие транспаранты с датами 4 и 5, как 10 июля наступило не менее знаменательное трехлетие президентского правления Александра Лукашенко. Затем сразу же 11-го числа в Витебске праздничным извержением взвился в небо фестиваль "Славянский базар".

Такую жизнь просто невозможно не признать счастливой, ведь что ни день — пока вызревает хлеб на полях — народу предлагаются зрелища в богатом ассортименте. Веселье заполонило Беларусь, и всяк, кто не подустал от алкогольных возлияний и перманентного ликования, да пребудет в эйфории, насколько хватит сил. Разгулялась душа славянская не на шутку!.. В добрый час, как говорится: негоже хмуро коситься на счастливых людей, даже если не разделяешь обуревающие их чувства. От щедрой независтливой души желаю всем занятым в беспрерывной цепи вот уже двухнедельных торжеств июля 1997 года по возможности легкого похмелья.

Пир горой, поздравительные речи, заздравные тосты всем своим многоголосым гомоном для трезвомыслящего человека не заглушают робкого звучания обыденных фактов. С ненавязчивой, но непреодолимой настойчивостью они показывают, что переход от острых общественных противоречий к почти райскому в своей безмятежности блаженству достигнут в телеэфире, но отнюдь не повсеместно.

В дни торжеств в государственной прессе попалась на глаза заметка об умонастроениях граждан молодого, в отличие от древнего Минска, города Новополоцка. Социологи Полоцкого государственного университета опросили 750 жителей индустриального города по вопросу о руководителях местной власти: избирать их местному населению или пусть президент назначает мэров и губернаторов? Проблема та самая, которая как бы раз и навсегда разрешилась на референдуме 1996 года, когда народ дружно проголосовал за назначение чиновников. И вот тебе на! Более 67 процентов новополочан теперь высказались за выборность местных руководителей, примерно 20 процентов опрошенных не знают ответа, и лишь чуть более 13 процентов счастливы оставаться под управлением назначенцев.

За выборность местной власти в Новополоцке (в процентах) высказались: 75,4 молодежи, 74,2 мужчин, 68,7 рабочих и даже 51,1 пенсионеров. И это в то время, когда в связи с трехлетием царствования Александра Лукашенко официальная пропаганда во всю свою подневольную прыть восхваляла исполнительную "вертикаль" и говорила, что особенно блестяще она проявила себя в период и сразу после урагана — лишь слегка омрачившего в глазах устроителей празднеств блистательные концерты, феерии и парады.

Итоги скромного регионального "плебисцита" в отдельно взятом городке возвращают, увы, блаженное общество все к тем же болезненным проблемам. Так что это за удивительные граждане без царя в голове, которые то и дело в корне меняют свое мнение? Так что это был за референдум, давший ответ, противоположный результатам социологических опросов как до, так и после пресловутого волеизъявления прошлой осенью? Так что это за власть на местах: кровная народная или чуждая тоталитарная? Оставим эти жгучие, как черный перчик, вопросы в качестве пикантной приправы чиновникам, насыщающимся яствами за столами по поводу стройности, жесткости и мобильности президентской "вертикали". А то как бы их ни стошнило от обилия сладких блюд, да еще и подаваемых блюдолизами.

Еще один диссонанс во всеобщее благолепие привнесли парламентарии. Да не опальные, а именно верноподданные президенту "сенаторы" и "палатники". То есть публично оба спикера верхней и нижней палат Национального собрания, Павел Шипук и Анатолий Малофеев, конечно же, изъявили в нужных выражениях всяческое свое одобрение главе государства. Однако в среде депутатов Палаты представителей уже завелась и обнаружила себя крамола.

Юбиляр Александр Лукашенко осенью 1996 года "купил" раскольников Верховного Совета 13-го созыва: обещал им зарплату в 500 долларов и многие прочие материальные блага. А они думали, что он их купил в прямом смысле слова и с ними расплатится. Не тут-то было! Уходя на каникулы, работающие на постоянной основе депутаты из палаты получают все-то по 13 миллионов "зайчиков", статус их низведен до уровня третьестепенных чиновников Совмина, которым, по слухам, отпускные выдают в валюте.

Не стерпели унижения "палатники"... Один из них, депутат Сергей Костян, по свойственной ему простоте душевной так и ляпнул на сессии в адрес правительства: "Если уже не можете народу обеспечить нормальную жизнь, начните хотя бы с депутатов". 70 депутатов настрочили возмущенное письмо Анатолию Малофееву с требованием лучшей жизни для себя. Из общей бочки меда, откуда без ограничений черпает непосредственно президентская рать, парламентские назначенцы хотят получить свою долю сладкого, а это уже попахивает бунтом. Ишь чего захотели! Мало им зрелищ, им еще и закусь подавай!

На грандиозную эстраду открывающегося шестого "Славянского базара" в Витебске под бурные аплодисменты 11 июля вышел опять же Александр Григорьевич Лукашенко. Неизменный герой всех празднеств, их центр и средоточие, президент оказался в зените славы у участников традиционного танцевально-певческого фестиваля. Шоу срежиссировано так, чтобы у гостей не возникло и тени сомнения в том, что в Беларуси началась и длится эра процветания.

Между тем в канун трехлетия президентства Александра Григорьевича по политической ситуации в Беларуси состоялись сложные дебаты на ежегодной Парламентской Ассамблее ОБСЕ. 45-й пункт принятой форумом Варшавской декларации гласит о том, что Европа "Обращается к Президенту Белоруссии Лукашенко с призывом восстановить права парламента, который, будучи должным образом избранным на основе демократических выборов в конце 1995 года, является единственным законным парламентом в Белоруссии".

Нынешний триумф президента покоится в том числе на развалинах подлинного представительного и законодательного органа республики. Не к череде национальных торжеств будет сказано, но глубокий внутренний надлом, переживаемый белорусским обществом, привносит в июльский разгул ощутимую ноту надрыва. Существуют далеко не только перечисленные факты, которые можно подать на белу скатерть, как ложку дегтя. Ну да ладно, все ж-таки праздники. Для расхлебывания дегтя достанет будней.

Ну і ну!

## Уладзімір Замяталін дзейнічае на прэзідэнта, як наркотык

Вядомы публіцыст Аляксандр Фядута назваў Уладзіміра Замяталіна наркотыкам для прэзідэнта. І, адчуваецца, не памыліўся. Ён меў на ўвазе, бадай, тое, што наркотыкі настолькі прыцягваюць да сябе, што ад іх немагчыма пазбавіцца. Наадварот, яны ўсё больш і больш уздзейнічаюць на душу таго, хто іх прымае.

Аб тым, што Уладзімір Замяталін стаў своеасаблівым наркотыкам для А.Лукашэнкі, сведчыць і ўказ аб назначэнні яго намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

Прачытайце біяграфію У.Замяталіна і задумайцеся.

У.П.Замяталін нарадзіўся ў 1948 г. у г.Тула, рускі.

Адукацыя вышэйшая.

Працоўную дзейнасць пачаў у 1973 годзе пасля праходжання тэрміновай воінскай службы і заканчэння Данецкага Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Служыў намеснікам камандзіра роты асобнага батальёна па палітычнай частцы ў ГДР, з 1978 года — намеснік начальніка інфармацыйнага цэнтра сувязі ў г.Хабараўску.

У 1983 годзе У.П.Замяталін закончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя У.І.Леніна. Праходзіў службу афіцэрам у Беларускай ваеннай акрузе на пасадах намесніка камандзіра танкавага палка, намесніка начальніка палітычнага аддзела танкавай дывізіі, інспектара палітупраўлення, намесніка начальніка арганізацыйнага аддзела палітупраўлення, начальніка ваенна-палітычнага аддзела акругі, намесніка начальніка ўпраўлення інфармацыі Мінабароны.

У 1994 годзе Замяталін У.П. быў прэс-сакратаром старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Кебіча.

З 1995 г. Замяталін У.П. працаваў у Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, спачатку начальнікам Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі, а затым — намеснікам Кіраўніка Адміністрацыі.

Са студзеня 1997 года Замяталін У.П. узначальваў Дзяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь.

Хто не ведае, як ставіцца У.Замяталін да пытанняў нацыянальнага адраджэння Беларусі, свабоды слова, правоў чалавека, дэмакратыі. А што могуць сказаць пра яго беларускія пісьменнікі, дзеячы культуры? Словам, вялікі "падарунак" зрабіў ім і ўсяму беларускаму народу Аляксандр Лукашэнка.

Дарэчы, былы намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч назначаны першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, У.В.Русакевіч нарадзіўся ў 1947 г. у Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці. Па нацыянальнасці — беларус.

Адукацыя вышэйшая. Закончыў Гродзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут і Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут.

Працоўную дзейнасць пачаў у 1963 годзе.

У 1970 годзе пасля заканчэння інстытута працаваў дырэктарам Турнянскай васьмігадовай школы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці.

У 1971—1972 гг. служыў у радах Савецкай Арміі.

У 1972—1986 гг. знаходзіўся на савецкай і партыйнай рабоце ў Брэсцкай вобласці. У 1986 годзе У.В.Русакевіч узначаліў выканкам Ганцавіцкага раённага Савета народных дэпутатаў, а ў 1990 г. быў назначаны намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама.

У сакавіку 1994 года У.В.Русакевіч быў выбраны намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У снежні 1994 года У.В.Русакевіч назначаецца намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь.

**Антон ВІЛЬКОЎСКІ.**



*Не адзін раз перабягала чорная кошка паміж Уладзімірам Замяталіным (на здымку — злева) і Паўлам Якубовічам. Але ж У.Замяталін, здаецца, ніколі не губляўся. Калі б Павел Якубовіч выліў столькі бруду на А.Лукашэнку, як гэта зрабіў падчас прэзідэнцкіх выбараў У.Замяталін, ён ніколі не быў бы ў атачэнні Аляксандра Рыгоравіча. Пераджыў Уладзімір Пятровіч Кебіча, пераджыве, мабыць, і Лукашэнку.*

